

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

Пейджинговую связь "ГС" обеспечивает НП ООО "Защита-Сервис".
ТЕЛЕФОН В Г.ГРОДНО (8-22)-75-00-66, В Г.СЛОНИМЕ 2-64-44.

# Газета Слонімская

№27 (213). 5 — 11 ліпеня 2001г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 150 руб.




**УВАГА! ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ, РЭКЛАМАДАЎЦЫ, СЯБРЫ!**

**Паведамляем, што "Газета Слонімская" пераехала ў новае памяшканне. Яна знаходзіцца ў будынку камбіната бытавога абслугоўвання па адрасе: вуліца Камсамольская, 8 (каля лазні).**




НАВІНЫ

## Слонімскае медаб'яднанне з новым галоўным урачом

**Слонімскае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне ўзначаліў 33-гадовы хірург Юрый Пяцельскі.**

Юрый Уладзіміравіч прыехаў з Карэліч, дзе да гэтага працаваў намеснікам галоўнага ўрача Карэліцкага медаб'яднання.

Былы галоўны ўрач Аляксандр Гулінскі працуе цяпер намеснікам загадчыка гінекалагічнага аддзялення Слонімскай бальніцы.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Віншаванне з нагоды



**Такія "трохкутнікі" (на здымку) атрымаў ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь кожны ветэран Вялікай Айчыннай вайны напярэдадні 3 ліпеня.**

У сваім пасланні Аляксандр Лукашэнка віншуе ўдзельніка вайны з 57-ай гадавінай вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Днём незалежнасці і выказвае найлепшыя пажаданні яму і яго блізкім.

Гэтыя своеасаблівыя паштоўкі праілюстраваны каляровымі фотаздымкамі і маюць добрую мастацкую і паліграфічную якасць. Такім чынам, дзеючы Прэзідэнт і пра ветэранаў перад святам не забыўся, і пра сябе перад прэзідэнцкімі выбарамі лішні раз нагадаў, а то і ў рэкламнай кампаніі яго пампаваць нельга, бо такія паштоўкі ветэранам дасылаліся і ў мінулыя гады.

Мікола КАНАНОВІЧ

## ПРОГНОЗ по Гродненской области ПОГОДЫ

В ближайшие дни переменная облачность, преимущественно без осадков, местами туман, ветер 2-7 м/с. Температура воздуха: **ночью +10 — +15, днем +23 — +25**

**Облгидрометеоцентр**



Фота Віталя Гіля

**3 ліпеня 1944 года войскі 3-га і 1-га Беларускіх франтоў вызвалілі Мінск ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З нагоды гэтай падзеі ва ўсіх гарадах Беларусі прайшлі ўрачыстасці. Людзі ўсклалі вянкі і кветкі на магілы загінуўшых воінаў.**

**Такая ўрачыстасць адбылася і ў Слоніме. У ёй прынялі ўдзел кіраўніцтва гар і райвыканкамаў, ветэраны вайны і працы, а таксама вайскоўцы.**

## ПЕРАБУДОВА НА СЛОНІМСКІМ РЫНКУ

**Жыхары і госці Слоніма, відаць, ужо заўважылі змяненні, якія адбыліся на тэрыторыі рынку. Старыя драўляныя гандлёвыя рады на Савецкай вуліцы, напрыклад, замянілі на новыя, больш сучасныя.**

Гандлёвыя палаткі, якія стаялі на адной лініі з радамі, перамясцілі паўкругам да будынка сінагогі. Там апынуліся гандлёвыя кропкі прыватных прадпрымальнікаў Аляксандра Дзяблова, Сяргея Лісічэнкі і Уладзіміра Грытусёва, якія гандлююць таварамі бытавой хіміі, а таксама палаткі гандляроў прадуктамі харчавання А. Шабуніна і Я. Тараноўскага. Гэтыя людзі выказалі сваё незадаволенне блізкім суседствам аварыйнага будынка сінагогі і прыбіральні. Па словах прыватнага прадпрымальніка Аляксандра Кавальчука, яны хацелі б вярнуцца на ранейшае месца. Яшчэ тром прадпрымальнікам, у сувязі з перамяшчэннем гандлёвых кропак і рэканструкцыяй радоў, на вуліцы Савецкай не хапіла месца. На слонімскім рынку адбываюцца апошнім часам і іншыя змены. У сувязі з гэтым карэспандэнт "ГС" сустрэўся з дырэктарам гандлёвага прадпрыемства "Світанак", у ведамстве якога знаходзіцца тэрыторыя міні-рынку, Васілём Духоўнікам і папрасіў пракаменціраваць сітуацыю.

(Працяг на 2 стар.)

ДАСЛЕДАВАННЕ

## ЧЕМ МЫ СЕБЯ ОТРАВЛЯЕМ?




**В воскресенье, 1 июля, корреспондент «ГС» попыталась выяснить у слонимчан, чем же они себя отравляют: сигаретами или спиртным? Удалось поговорить с 50 мужчинами в возрасте от 13 до 45 лет и с 50 женщинами от 13 до 42 лет.**

56% опрошенных мужчин курят и пьют, 18% – не пьют и не курят, а 26% сильного пола либо курят, либо пьют. Что касается женщин, то 36% – курят и пьют, 36% опрошенных не пьют и не курят, а 28% – либо курят, либо пьют.

64% опрошенных мужчин – курят, 26% – нет. 74% слонимчан мужского пола употребляют спиртные напитки, причем предпочитают пиво и водку. 36% – вообще не употребляют горячительных напитков.

44% опрошенных женщин – курят, никогда не делали этого – 56%. И наоборот – 56% представительниц слабого пола употребляют спиртные напитки, кстати, как и мужчины, предпочитая пиво и водку, а 44% не употребляют спиртного, заменяя его минеральной водой и соком.

Ольга ШИНКЕВИЧ

З ЗАЛЫ СУДА

## ДУШЫЦЕЛЬ ДЗЯЎЧЫНАК ПАКАРАНЫ, А СТРАХ ЗА СВАІХ ДЗЯЦЕЙ ЗАСТАЎСЯ

**Страшная трагедыя здарылася ў Японіі — хворы чалавек-маньяк забіў васьмярых дзяцей. Як высветлілася, людзі папярэджвалі паліцыю пра небяспеку з боку гэтага чалавека. Але... Падобна на тое, што мы не здольныя вучыцца на чужых памылках, рабіць высновы з чужых трагедый. Такое ўражанне засталося пасля суда над слонімцам Андрэем Б., які сёлетняй вясной у мікрараёне "Энка" душыў двух дзяўчынак-падлеткаў.**

### Падсудны, 27-гадовы Андрэй Б. Раней судзімы.

*27 красавіка да яго зайшоў сябар і яны выпілі дзве бутэлькі спірта. Пасля Андрэй, па яго словах, сеў на аўтобус N 12 і паехаў на вуліцу Брэсцкую да знаёмай жанчыны. Сам не заўважыў, як праехаў патрэбны прыпынак і апынуўся на "Энцы". Убачыў дзяўчынку і вырашыў яе "ізбіць", а каб не было шуму, каб не крычала — спачатку "придушить". Пачаў душыць, але, пачуўшы шум, уцёк. Убачыў другую дзяўчынку "и тоже, думаю, побью". Зноў душыў, і зноў, пачуўшы шум, уцёк. Растлумачыць матывы сваіх дзеянняў не здолеў (ці не захацеў — **М.В.**): "Не знаю, что со мной случилось. Бес попутал."*

### Пацярпелая Вольга В., 16 гадоў.

*Вяртаючыся са школы, ужо ля свайго дома ўбачыла, што нейкі мужчына ідзе следам, але не прыдала гэтаму значэння. Калі паднялася на свой паверх і стала адчыняць дзверы на пляцоўцы, мужчына нечакана накінуўся на яе і стаў душыць. Спрабавала крычаць, але не змагла, бо горла было здушана. Спрабавала імітаваць страту прытомнасці — не дапамагло, а потым на нейкі момант і сапраўды страціла прытомнасць. Апрытомнела ўжо на падлозе. Выратавала Вольгу тое, што бабуля ўбачыла праз акно ўнучку, якая ішла дамоў, і таму разам з маці Вольгі з хвіліну на хвіліну чакалі яе прыходу. Пачуўшы шум на пляцоўцы, адчынілі дзверы і ўбачылі яе ледзь жывую, і мужчыну, які спускаўся ўніз. Першыя словы Вольгі былі: "Мама, я не магу дыхаць".*

(Працяг на 2 стар.)

 



ПРАБЛЕМА

## Дискриминация цвета «хаки»

«Курица – не птица, прапорщик – не офицер». Видимо, такими соображениями руководствовались финансисты белорусского военного ведомства при разработке очередного положения о пенсиях военнослужащим.

Дело в том, что в вооруженных силах появился новый Приказ Министра Обороны. Касается он пенсионного обеспечения и, в частности, выплаты пенсий военнослужащим, достигшим пенсионного возраста либо выслужившим достаточный для получения пенсии срок, но продолжающим служить. По новому Приказу пенсия в таком случае выплачивается в полном объеме, но ... только офицерам и генералам. А прапорщики и солдаты, сержанты контрактной службы почему-то «пролетают».

В чем, спрашивается, разница, и почему такая дискриминация, ведь это люди не менее заслужившие достойного отношения к себе. И тянут они военную свою лямку никак не меньше офицеров. И забот, и хлопот у них, как на службе, так и дома, тоже вполне достаточно.

Что ж тогда, – рылом не вышли? Так в царской армии «прапорщик» первым офицерским чином был. А может быть, деньжат на всех, продолжающих служить пенсионеров, не хватает? Ну, так хоть офицеров перед выборами задобрить постарались. Что ни говори, а – забота об армии. Пусть и не обо всей.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

КУРСЫ ОБМЕНА ВАЛЮТ
ПО СОСТОЯНИЮ НА 3 ИЮЛЯ 2001Г
В СЛОНИМЕ

| | | |
|---|---|---|
| **“Приорбанк”** | | |
| | **Покупка** | **Продажа** |
| **1 USD** | 1400 | 1425 |
| **1 DM** | 590 | 620 |
| **1 RUR** | 46 | 48.50 |
| **“Беларусбанк”** | | |
| | **Покупка** | **Продажа** |
| **1 USD** | 1405 | 1428 |
| **1 DM** | 600 | 620 |
| **1 RUR** | 47 | 49 |
| **АК “Белпромстройбанк”** | | |
| | **Покупка** | **Продажа** |
| **1 USD** | 1400 | 1430 |
| **1 DM** | 595 | 625 |
| **1 RUR** | 46 | 49 |
| **“Белагропромбанк”** | | |
| | **Покупка** | **Продажа** |
| **1 USD** | 1400 | 1420 |
| **1 DM** | 590 | 610 |
| **1 RUR** | 47 | 48 |
| **Нацбанк РБ** | | |
| **1 EURO** | 1173 | |

ЦЕНЫ НА СЛОНИМСКОМ РЫНКЕ
ПО СОСТОЯНИЮ НА 3 ИЮЛЯ 2001Г

| Продукт | Цена за кг |
|---|---|
| Клубника | 1300 — 1500 |
| Бананы | 1000 — 1100 |
| Апельсины | 1600 — 1700 |
| Яблоки | 600 — 1600 |
| Огурцы | 400 — 600 |
| Помидоры | 1200 — 1300 |
| Капуста | 300 – 400 |
| Морковь | 1400 |
| Лук | 100 – 600 |
| Чеснок | 2200 |
| Картофель | 85 |
| Молоко | 200 за 1л |
| Творог | 700 |
| Масло | 2400 |
| Яйца | 800 — 900 |
| Свинина | 2800 — 3800 |
| Говядина | 2800 — 3700 |
| Баранина | — |
| Сало соленое и свежее | 2000 — 2500 |
| Телятина | 2200 — 3600 |
| Мед | 5500 за кг |
| Сметана | 800 |
| Абрикосы | 2000 |
| Лимоны | 1700 |
| Арбуз | 1000 — 1200 |

З ЗАЛЫ СУДА

# ДУШЫЦЕЛЬ ДЗЯЎЧЫНАК ПАКАРАНЫ,

## А СТРАХ ЗА СВАІХ ДЗЯЦЕЙ ЗАСТАЎСЯ

**(Працяг. Пачатак на 1 стар.)**

**Пацярпелая Насця С., 14 гадоў. Жыве ў суседнім пад'ездзе таго ж дома, што і Вольга.**

*Ішла са школы і яшчэ за два дамы да свайго дома бачыла, што следам ідзе мужчына, і таксама не звярнула на гэта ўвагу. Пакуль Насця ключом адмыкала дзверы пад'езда, мужчына стаяў за яе спіной. На пляцоўцы трэцяга паверха, дзе і жыве Насця, рэзка накінуўся і стаў душыць. Мужчына ўцёк пасля таго, як з рук Насці выпалі ключы і сумка. Бацька Насці, які, на шчасце, быў дома, з дапамогай іншых жыхароў "Энкі" урэшце затрымаў злачынцу, хоць той двойчы вырываўся з рук мужчын, а перад тым спрабаваў выдаць сябе за звычайнага прахожага.*

Жудасная гісторыя, якая закончылася адносна шчасліва толькі таму, што бацькі абедзвюх дзяўчынак былі дома, і бабуля Вольгі выпадкова глянула ў акно і ўбачыла ўнучку.

У суд па просьбе бацькоў Вольгі і Насці прыйшлі дзве дзяўчынкі, каб паглядзець на падсуднага. Бо на іх у сакавіку гэтага года на вуліцы напаў мужчына і таксама душыў. Андрэй Б. падобны на таго мужчыну, але дзяўчынкі цалкам не былі ўпэўненыя, што гэта менавіта ён, бо было цёмна, і той быў апрануты ў зімовую вопратку. Па словах адной дзяўчынкі, перад тым, як душыцель накінуўся, яе сусед даваў прыкурыць гэтаму мужчыне і, магчыма, мог бы апазнаць яго. Але ні следства, ні пракуратура, ні суд гэтымі дзяўчынкамі не зацікавіліся. Як сказаў суддзя, яны не звярталіся з заявамі. Ёсць яшчэ трэцяя дзяўчынка, якая жыве на той жа вуліцы, і на якую таксама быў напад у сакавіку (усяго пацярпелых у сакавіку-красавіку – пяць дзяўчынак), і ёй, нібыта, займалася следства. Тым больш, застаецца ўражанне, што не ўсё зроблена, не ўсе меры прыняты.

Супрацоўнік Слонімскага ГРАУС з аддзела дазнання Ярашэнкаў і прадстаўнік пракуратуры (дзяржаўны абвінаваўца) Яўген Рэвуцкі кваліфікавалі дзеянні Андрэя Б. як хуліганства. "Хіба вам будзе прыемна, калі вашы дзеці тут будуць гаварыць пра інтымныя падрабязнасці, звязаныя з гэтым выпадкам", – звярнуўся суддзя да бацькоў і прапанаваў правесці судовае пасяджэнне ў скарочаным варыянце. Але бацькі запатрабавалі судовага разбіральніцтва ў поўным аб'ёме. А паколькі яны не былі на той час азнаёмлены з матэрыяламі справы і з заключэннем экспертызы, то суд быў перанесены на 15 чэрвеня.

### Выявіліся цікавыя рэчы

Па словах Андрэя Б., ён і яго сябар выпілі дзве бутэлькі спірта, а, згодна медэкспертызы, падсудны знаходзіўся ў лёгкай ступені алкагольнага ап'янення. Следства нават не паспрабавала знайсці сабутэльніка Андрэя Б. і жанчыну, да якой ён нібыта ехаў. Сведкамі і ўдзельнікамі адлову падсуднага былі дзесяткі людзей, але па справе яны не праходзяць. Галоўнае ж – не высветлены матывы здзейсненага злачынства. І зноў ні следства, ні пракуратура, ні суд не звярнулі на гэта ўвагу.

Справа закончана, але без адказу засталося вельмі шмат і іншых пытанняў:

**1.** Чаму дазнавацель і прадстаўнік пракуратуры кваліфікавалі дзеянні Андрэя Б. як хуліганства? Чаму першы правеў следства па прынцыпу, абы збыць з рук, а другі гэтага "не заўважыў"? Ці разумелі, што рабілі? Пэўна ж, разумелі. І нават ведаюць, як такая іх работа называецца... . На судовым пасяджэнні 15.06.01. быў ужо іншы прадстаўнік пракуратуры – Вера Рыпінская, якая сцвярджала, што нельга апераваць такімі тэрмінамі як "згвалціць", "забіць", бо ёсць прэзумпцыя невінаватасці. Бацькі былі ў роспачы ад такой пастаноўкі пытання, бо гаворка ж пра іншае. Пра тое, каб такое, ці, не дай Бог, горшае, зноў не здарылася з іх дзецьмі і з дзецьмі другіх людзей.

**2.** Чаму ў матэрыялах справы адсутнічае прадмет, падобны на адвёртку, якім Андрэй Б. пры затрыманні пагражаў бацьку Насці С. са словамі: "Уйди, убью"?

**3.** Чаму ў матэрыялах справы адсутнічае парнаграфічны журнал, які быў знойдзены ў Андрэя Б. пасля затрымання?

**4.** Чаму дазнавацель Слонімскага ГРАУС не зрабіў ніякіх захадаў дзеля расследавання двух падобных здарэнняў у сакавіку, хоць бацькі Вольгі і Насці яму казалі пра гэта? Чаму не звярнула на гэта ўвагу пракуратура? Чаму адмахнуўся ад гэтага суд? Чаму нікога не насцярожвае, што ўсе дзяўчынкі, якія падвергліся нападу – светлавалосыя? Чаго не хапае? Трупаў?!

Прысуд па справе Андрэя Б. быў абвешчаны на пасяджэнні слонімскага суда ў аўторак, 19 чэрвеня: ён асуджаны на 2 гады турэмнага зняволення ў калоніі строгага рэжыму. Акрамя таго суд вынес прыватнае азначэнне на адрас аддзела дазнання Слонімскага ГРАУС.

Але пытанне ў гэтым артыкуле не ставіцца такім чынам, каб як мага больш сурова пакараць Андрэя Б. Тое, што здарылася – вялікае няшчасце і для яго, і для яго бацькоў, і для ўсіх блізкіх яму людзей. Пытанне ў тым, каб засцерагчы нас ад небяспекі з боку падобных людзей. Пытанне ў тым, каб не чакаць, пакуль нехта ўсё-такі дадушыць да смерці чарговую ахвяру, а ў тым, каб дасканала разабрацца ў гэтай справе, прынамсі, каб высветліць, ці адзін і той жа чалавек душыў дзяўчынак-падлеткаў на вуліцы ў сакавіку і на "Энцы" ў красавіку? Пытанне ў тым, каб высветліць матывы здзейсненага Андрэем Б. злачынства і, па магчымасці, дапамагчы гэтаму чалавеку, а не адсоўваць гэта пытанне, разлічваючы на славутае авось. І галоўнае – каб засцерагчы слонімцаў ад небяспекі.

**Міхась ВАРАНЕЦ,
жыхар мікрараёна "Энка".**

# ПЕРАБУДОВА НА СЛОНІМСКІМ РЫНКУ



Фота Віталя Гіля

*Абноўлены гандлёвы рад на Савецкай вуліцы*

**(Працяг. Пачатак на 1 стар.)**

– Галоўная мэта ўсіх пераменаў, – сказаў Васіль Аляксеевіч, – навесці на рынку парадак і зрабіць гэту частку нашага горада прыгожай. Тое, як наш рынак выглядаў раней – ужо гісторыя. Усе мерапрыемствы па добраўпарадкаванню тэрыторыі ўзгаднюцца з выканкамам і самімі прадпрымальнікамі. Мы ўжо пабудавалі абсталяваныя камеры захоўвання, цяпер замяняем драўляныя непрыстасаваныя гандлёвыя рады на сучасныя, і на Савецкай вуліцы – гэта толькі пачатак. Яшчэ адна праблема, якая чакае свайго вырашэння – аўтастаянка. Бо цяпер аўтатранспарт стаіць паўсюль, дзе можна і дзе нельга. Плануецца, што магазіны "Кветкі" і хлебны будуць знесены і там зроблена зона адпачынку, дзе будзе і кропка харчавання. Рашэнне гарвыканкама па гэтаму пытанню ўжо практычна ёсць. Каштарысная дакументацыя праекта знаходзіцца ў стане распрацоўкі. Кошт зоны адпачынку складзе парадка 20 мільёнаў рублёў. А ўжо на сённяшні дзень у добраўпарадкаванне тэрыторыі ўкладзена 10 мільёнаў. Вось вам і адказ на пытанне, куды ідуць грошы прадпрымальнікаў, якія яны плоцяць за месца. А ўвогуле, на нашым рынку яшчэ многае патрэбна мяняць, каб і ўмовы працы гандляроў, і месца адпачынку нашых гасцей і пакупнікоў набылі належны выгляд. У гэтым годзе неабходныя работы будуць выкананы на 50%, а ў наступным, да 750-годдзя Слоніма, плануем цалкам закончыць рэканструкцыю нашага міні-рынку.

Цяпер што датычыцца палатак прадпрымальнікаў ля сінагогі і радоў на Савецкай. Пытанне аб перамяшчэнні палатак вырашалася на ўзроўні выканкама і галоўнага архітэктара горада, узгаднялася яно і з самімі гандлярамі. І ў прысутнасці старшыні гарвыканкама прадпрымальнікі сваю незадаволенасць не выказвалі. Але калі дайшло да справы, то шуму было многа. Зразумела, што для гандляра вельмі важна, дзе стаіць яго палатка. Бо ў адным месцы купляюць лепш, у другім – горш. Але, пры ўсім жаданні, мы не можам задаволіць патрабаванні кожнага чалавека. Пры перамяшчэнні палатак і замене радоў тром гандлярам не хапіла на Савецкай месца. Але ім прапанавалі месца на асноўнай тэрыторыі рынку. А калі справа дойдзе да рамонту сінагогі, то гандлёвыя кропкі ля будынка ўсё роўна патрэбна будзе перамяшчаць. А калі цалкам навядзём парадак, то гандлёвыя рады будуць знаходзіцца згодна схемы іх размяшчэння...

У канцы нашай гутаркі Васіль Духоўнік адзначыў, што праца на рынку з людзьмі вельмі не простая. Але фірма "Світанак" імкнецца зрабіць слонімскі рынак сучасным месцам гандлю, і большасць прыватных прадпрымальнікаў гэта разумеюць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

АБІТУРЫЕНТ - 2001

## ЗМЕНЫ ПРЫ ПАСТУПЛЕННІ

Якія змены ў параўнанні з мінулым годам адбудуцца сёлета пры паступленні ў вашу навучальную ўстанову? Такое пытанне карэспандэнт "ГС" адрасаваў кіраўнікам Слонімскіх сельскагаспадарчага ліцэя, медвучылішча і Жыровіцкага аграрна-тэхнічнага каледжа.

**Віктар Лахмакоў, намеснік дырэктара сельскагаспадарчага ліцэя:**

– У параўнанні з мінулым годам замест групы кухараў, пасля 11 класаў, ліцэй будзе набіраць абітурыентаў на спецыяльнасць пераапрацоўшчык мясных прадуктаў і кухар. За два гады вучобы навучэнцы ў нас атрымаюць адразу дзве спецыяльнасці. Конкурс сюды – па балах атэстата.

**Ігар Грыцук, выконваючы абавязкі дырэктара медвучылішча:**

– У мінулым годзе 60% абітурыентаў набіралася ў вучылішча па конкурсу адзнак у атэстатах. У гэтым годзе такога не будзе. Усе выпускнікі школ, якія пажадаюць паступаюць у наша вучылішча, будуць здаваць экзамены.

У мінулым годзе набор у наша вучылішча быў толькі на сястрынскую справу, то сёлета – на сястрынскую і фельдшарска-акушэрскую справы.

**Пётр Турок, намеснік дырэктара Жыровіцкага аграрна-тэхнічнага каледжа:**

– У мінулым годзе мы не прымалі асобную групу выпускнікоў ПТВ. У гэтым годзе такая група будзе набірацца са скарочаным тэрмінам навучання на 1 год. Праўда, выпускнікі ПТВ павінны ў дыпломах мець толькі добрыя і выдатныя адзнакі і накіраванне з вучылішчаў. Сёлета па мэтаваму накіраванню будуць у каледж прымацца абітурыенты з Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, акрамя той мясцовасці, дзе ёсць падобныя навучальныя ўстановы – гэта Жыровічы, Пружаны, Мар'іна Горка. І ў атэстатах паступаючыя павінны мець чацвёркі і пяцёркі па тых прадметах, па якіх яны будуць здаваць уступныя экзамены.

Што датычыць Слонімскага ПТВ-129, дык у ім змен пры паступленні, у параўнанні з мінулым годам, не адбылося.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

 

НАВІНЫ

## «ДЕМБЕЛЬ» НЕИЗБЕЖЕН

**Одновременно с призывом на военную службу в белорусской армии идет увольнение в запас солдат, выслуживших установленные сроки.**

В слонимской 11 механизированной бригаде на сегодняшний день демобилизовался уже 61 солдат.

На время празднования Дня независимости увольнение в запас приостановлено. Но последний солдат, подлежащий увольнению этим летом, с разрешения командира 28 армейского корпуса генерал-майора Анатолия Никитина уйдет на «дембель» до 10 июля.

## ДИСЦИПЛИНА И ПРЕДВЫБОРНАЯ АГИТАЦИЯ

**В Новогрудке прошло заседание военного совета 28 армейского корпуса.**

Рассматривался вопрос о поддержании высокого морально-психологического состояния личного состава.

Проведенный анализ состояния воинской дисциплины показал, что в целом по корпусу количество преступлений сократилось более чем на 50 процентов. В слонимской же 11 механизированной бригаде в 2001 году не допущено ни одного преступления и происшествия.

В связи с предстоящими президентскими выборами командир корпуса генерал-майор А.Никитин отметил, что все доверенные лица, представители кандидатов и сами кандидаты в Президенты должны иметь равные возможности посещения воинских частей. Но проходить встречи с военнослужащими должны только во внеслужебное время и только с письменного разрешения начальника Главного штаба вооруженных сил Беларуси.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ТЭАТР

# МУДРАЯ КАЗКА "КОТ У БОТАХ"



*Прынцэса (арт. Наталля Шугай), кароль (арт. Віктар Шчарбакоў), людаед (арт. Сяргей Фурса)*



*Кот у ботах (арт. Васіль Сявец), прынцэса (арт. Наталля Шугай)*

**У Слонімскім беларускім драматычным тэатры адбылася здача новага спектакля для дзяцей "Кот у ботах" па п'есе С.Пракоф'евай і Г.Сапгір.**

Гадоў трыста назад французскі пісьменнік Шарль Перо напісаў цудоўную казку пра ката ў ботах. Гэтая мудрая і старая казка захавалася да нашых дзён. Яе ведаюць дзеці ва ўсім свеце. Па ёй напісаны сцэнарыі фільмаў і мультфільмаў, шмат п'ес, па якіх пастаўлены спектаклі ў многіх краінах. Адзін спектакль "Кот у ботах" убачыў сцэнічнае жыццё і на слонімскай сцэне ў пастаноўцы галоўнага рэжысёра тэатра Віктара Бутакова. Дарэчы, за тэатральны сезон 2000-2001 года гэты рэжасёр паставіў ужо тры спектаклі для дарослых і адзін – для дзяцей. Гэта шмат.

Адразу скажу, што юныя гледачы "Ката ў ботах" убачаць восенню. А паглядзець там ёсць на што. Прыгожыя касцюмы казачных герояў, музыка, добрая ігра акцёраў Наталлі Шугай, Сяргея Фурсы, Васіля Сяўца, Аляксандра Шалахонава, Віктара Шчарбакова і Вікторыі Аксёнавай не даюць гледачам сумаваць. Спектакль цікавы не толькі дзецям, але яго з вялікім задавальненнем паглядзяць і дарослыя. Дарэчы, на здачу "Ката ў ботах" адміністрацыя тэатра запрасіла дзяцей-сірот са Слонімскага дзіцячага дома. Ім пастаноўка спадабалася. А гэта – самы найлепшы падарунак усім тым, хто над ім працаваў.

**Сяргей ЧЫГРЫН, Віталь ГІЛЬ (фота)**

ЗДАРЭННІ

## Атруцілася дзяўчынка кумпяком

**Нядаўна ў Дзятлаве памерла васьмігадовая дзяўчынка. Яна разам з бацькам, дзядзькам, стрыечным братам і дзедам паела дамашняга кумпяка.**

Дзяўчынку выратаваць не ўдалося, а ўсе астатнія лечацца ў Слонімскай бальніцы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Трагедыя на возеры

**У пятніцу, 29 чэрвеня, на возеры ў Лабазоўцы ўтапіўся вучань 11 класа СШ №8 г. Слоніма.**

З пачатку года на Слонімшчыне ахвярамі вады сталі ўжо 6 чалавек.

## Напаіў і згвалціў

**15-гадовая школьніца і 20-гадовы жыхар г. Заслаўля Мінскай вобласці, які нідзе не працуе, да вечара распівалі спіртныя напоі ў лесе каля вёскі Жыровічы.**

Захмялеўшы, юнак пачаў прыставаць да дзяўчыны, а пасля яе згвалціў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Топорных рук мастера

**В деревне Дворец Дятловского района 30-летний местный житель, изрядно разогретый спиртным, стал выяснять отношения со своей супругой с топором в руках.**

Женщина отделалась испугом. А вот жителю Лиды повезло меньше – дебошир несколько раз ударил его топором по руке.

**"МВ"**

ПОШТА

## Потоп в библиотеке

*Нигде не отдохнёшь лучше, чем в деревне. Вот и я приехала провести каникулы в деревню Сеньковщина к своей бабушке. Однако без книг я скучаю, поэтому пошла в местную библиотеку. Библиотекарь Татьяна Сергеевна Курьян встретила меня ласково, с улыбкой, но в глазах её была грусть. Когда я огляделась, то не поверила своим глазам: с потолка капала вода. Она залила много книг.*

*Татьяна Сергеевна очень сильно переживает. Она пытается сушить книги, но от сырости издания сильно разбухают.*

*Неужели у нас в районе не найдутся люди, которые помогут решить эту проблему? Ведь библиотека — это основной очаг культуры на селе. Тем более такая хорошая, как Сеньковщинская.*

**Катя ЩЕРБАКОВА, ученица 6 "Б" класса СШ №5 г. Слонима**

**АД РЭДАКЦЫІ:**

Карэспандэнт "ГС" папрасіў пракаменціраваць гэтую сітуацыю дырэктара Слонімскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Ларысу Рэпінскую.

Ларыса Уладзіміраўна паведаміла, што, сапраўды, у бібліятэцы ў Сянькоўшчыне працякае дах. Але сродкаў на рамонт будынка ў іх няма. У бюджэт закладзены толькі выдаткі на зарплату бібліятэкарам і на падпіску. Тым не менш, па словах Ларысы Рэпінскай, у дадзеным выпадку выйсце знойдзена. Старшыня мясцовага калгаса "1 Мая" Антон Дабрэнка паабяцаў, што ў бліжэйшы час дах у бібліятэцы будзе адрамантаваны сіламі калгаса.

# В ПОЛЕВОМ ЛАГЕРЕ ГВАРДЕЙЦЕВ

**В июне на Обуз-Лесновский полигон вышел сводный отряд 11 механизированной бригады. Более двухсот солдат, сержантов, офицеров и прапорщиков занимаются подготовкой полигона к учениям, которые пройдут в августе с 50-й брестской бригадой.**




*Обед в полевой солдатской столовой*

Жизнь в полевых условиях, безусловно, отличается от казарменной, и корреспонденты "ГС" по приглашению командира сводного отряда подполковника Олега Белоконева приехали в полевой лагерь посмотреть на эти самые условия. Первое, что бросилось в глаза, это образцовый порядок в лагере, как, впрочем, в любом воинском расположении. Тут у каждой вещи свое место и каждому делу свое время.

Не упустили мы возможности посмотреть и на вещи, и на дела. Подполковник Белоконев провел нас по всему лагерю, а это – палаточный городок, где живут солдаты и офицеры, полевой парк машин, летний кинотеатр, спортплощадка, столовая, кухня и даже баня. Все это сделано толково и, что называется, дешево и сердито,– в смысле, основательно.

Днем в лагере было немноголюдно. Большая часть солдат находилась на работах по подготовке полигона. Там приходится вырубать разросшийся кустарник, рыть новые окопы и капониры и чистить старые. Весь день солдаты проводят в поле, а в лагере тем временем очередной наряд по кухне готовит обед.

Попробовать, так сказать, солдатской каши пригласили и нас. В тот день на обед были щи, гречневая каша с тушенкой и компот. Порции, я вам скажу, не маленькие и, что не маловажно, вкусные и сытные. При таком ежедневном питании большинство солдат и офицеров здесь, в полевом лагере, поправилось. Так что родители и жены могут не беспокоиться, – в поле никто не голодает. Съездить домой в Слоним офицерам и прапорщикам, кстати, удается всего раз в две-три недели, но никто не жалуется.

Хватает в этой жизни "на природе" и своих курьезных и не очень случаев. Один из них рассказал подполковник Олег Белоконев. На десерт, так сказать.

На полигоне главное – дисциплина, чтоб солдатам разные дурные мысли в голову не лезли, вроде "где достать выпивки". Вот командир отряда и предупредил всех перед выходом в поле, что деревень поблизости нет и за самогонкой ходить некуда, даже если очень захочется.

Но тут приезжает в лагерь начальник полигона и проводит перед строем свой инструктаж:

– Ближайшая деревня за три километра, но не вздумайте туда ходить за самогоном. Потому что в пятой хате его, конечно, продают, но такой дрянной, что не дай боже...

В тот же день под вечер трое солдат прямым курсом двинули на деревню, все обвешанные фляжками. В пути попались, пришлось примерно наказать, – поставили им задачу в выходной день капонир закапывать. А это – яма 6 на 4 метра и в глубину еще два с половиной.

Работают парни, пока все остальные отдыхают. Тут командир отряда мимо проходит, и в это время один солдат бросает лопату и говорит:

– Как же я ненавижу!!!

– Кого? Не меня ли? – спрашивает Олег Белоконев.

– Водку, товарищ подполковник!

Такая вот воспитательная работа...

На выходные в лагере осталось только минимальное количество солдат, необходимое для поддержания порядка. Остальные проведут праздники в Слониме, в пункте постоянной дислокации. Так и командирам спокойнее, и для солдат есть возможность сходить в увольнение.

Мы же уезжали из лагеря с новым приглашением, – приехать в баньке попариться. Насчет баньки не знаю, а в августе на учения приедем обязательно.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

Газета Слонімская
5 — 11 ліпеня 2001г. №27 (213)

СВЯТА

СЛОНІМ — МІНСК — "ДУДУТКІ"

## СЯМЁНА ДОМАША ВЫБРАЛІ ПРЭЗІДЭНТАМ ФЭСТУ

Лічба "7", сапраўды, аказалася шчаслівай для ўдзельнікаў (а іх было каля 300 чалавек) сёмага па ліку "Фэсту старасвецкай культуры", які адбыўся 23 чэрвеня ў музеі матэрыяльнай культуры "Дудуткі" пад Мінскам. У свяце прынялі ўдзел славутыя майстры беларускай музычнай культуры Віктар Скорабагатаў і Ігар Алоўнікаў, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, а таксама кіраўнік незарэгістраванага грамадскага аб'яднання "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш. На фэсце таксама прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, дзяржаўныя чыноўнікі і рэдактары дзяржаўных і незалежных выданняў, сярод якіх былі рэдактар "Советской Белоруссии" Павел Якубовіч, памочнік Прэзідэнта Сяргей Посахаў і каля сотні журналістаў з розных куткоў Беларусі.

Але не толькі прысутнасць вядомых асобаў ажыўляла гэтае свята. У рамках праграмы фэсту прайшла прэзентацыя зборніка "Музыка сям'і Агінскіх". Упершыню ў Беларусі быў праведзены конкурс кавальскага мастацтва, пераможцамі якога сталі кавалі бацька і сын Дубіны. А гродзенскі каваль Юрый Круш дапамог Сямёну Домашу выкаваць падкову на шчасце і дабрабыт усёй Беларусі. У гэты ж дзень адбылося адкрыццё новага музейнага аб'екта — сыраварні, прадукцыя якой прыйшлася даспадобы гасцям. Але самае вялікае захапленне і апладысменты гасцей выклікала тэатрызаваная прэзентацыя новай кнігі Яўгена Будзінаса "Дуракі", героямі якой сталі лёгка пазнавальныя Лукашонак, Падмяталін, Поздні, Тушкевіч і іншыя. Дарэчы, "Рэгіянальная Беларусь" і асабіста яе кіраўнік Сямён Домаш паспрыялі таму, каб гэты вострый твор Яўгена Будзінаса, які адлюстроўвае 12 апошніх гадоў беларускай гісторыі, пабачыў свет.

Калі адгучала "Музыка сям'і Агінскіх" і прайшла прэзентацыя "Дуракоў", паступіла прапанова абраць прэзідэнта фэсту. Непадыманнем рук усе прысутныя прагаласавалі за кандыдатуру Сямёна Домаша, на што ў сваім выступленні Рыгор Барадулін выдаў экспромт: "На вострае пытанне, хто прэзідэнтам стане, адказ адзін, вядома ж, — надзейны толькі Домаш!". А кіраўнік славутага музычнага калектыву "Беларуская капела" Віктар Скорабагатаў падзякаваў Сямёна Мікалаевіча за адраджэнне ў бытнасць апошняга старшынёй аблвыканкама Гродзенскай капелы імя Антонія Тызенгаўза.

Вечарам на адкрытай пляцоўцы адбыўся канцэрт рок-фольк-групы "Палац", пад музыку якога танцавалі і госці, і гаспадары фэсту...

Але ўсякае свята ўрэшце рэшт заканчваецца, а людзі вяртаюцца да сваіх будзённых клопатаў і нашай невясёлай рэчаіснасці. І тое "невясёлае" аўтар гэтых радкоў адчуў у той жа суботні вечар па вяртанні ў сталіцу, калі пасля 20 гадзін у шапіку на праспекце Машэрава захацеў набыць пляшку піва мінскага завода "Крыніца". Кошт трох гатункаў гэтага піва быў заклеены... белай паперкай, хоць скрыні з таварам стаялі там жа. На пытанне: "Чаму ж вы не прадаяце наша піва?" — пачуў, што пасля 20-00 гандаль айчынным півам забаронены. Затое выбар расійскага піва — самы шырокі ў шклатары і бляшанках. Гандлярка ўсё ж прадала мне пляшку "Крыніцы" "з-пад палы", пацікавіўшыся, праўда, папярэдне, ці не стаіць дзе побач "варанок".

Здаецца, дробязь, але святочны настрой быў сапсаваны. І не перастаеш здзіўляцца часам з непавагі беларусаў да ўсяго свайго — нават да піва.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## В ОЖИДАНИИ КРЕДИТА "СТЭНД-БАЙ"

**Председатель правления Национального банка Беларуси Петр Прокопович, который 29 июня провел в Гродно прием граждан по личным вопросам, прокомментировал БелаПАН перспективы развития отношений Беларуси с Международным валютным фондом.**

По словам Прокоповича, уже в текущем году Беларусь проведет переговоры с МВФ по выделению кредитной линии "стэнд-бай". "Эти переговоры для нас будут успешными, — отметил Петр Прокопович. — На сегодняшний день мы имеем соглашение с Валютным фондом по программе мониторинга экономического состояния Республики Беларусь. Соглашение подписано на срок с 1 апреля по 1 октября. Считаю, что все договоренности с МВФ у нас будут выполнены".

**Павел МОЖЕЙКО**

## ЛУКАШЕНКО ПРИНЯЛ ШЕЙМАНА

**О результатах работы органов прокуратуры за прошедшую неделю и вопросах, рассмотренных коллегией республиканской Прокуратуры, проинформировал 29 июня Александра Лукашенко генеральный прокурор Беларуси Виктор Шейман.**

Согласно отчету генпрокурора, за указанный период в стране зарегистрировано 1.704 преступления, в том числе 24 убийства, из которых 17 раскрыты. Прокуроры отменили 247 незаконных постановлений об отказе в возбуждении уголовных дел и о приостановлении и прекращении расследования, вынесенных другими правоохранительными органами, а также поддержали государственное обвинение по 774 уголовным делам. В защиту интересов государственных организаций и колхозов в общие и хозяйственные суды заявлено 118 исков на сумму свыше 444 миллионов рублей. По выявленным в ходе прокурорских проверок нарушениям законодательства в местные исполнительные и распорядительные органы, руководителям различных организаций внесено 95 представлений.

Как сообщила пресс-служба президента, Лукашенко и Шейман обсудили также вопросы взаимодействия прокуратуры и других правоохранительных органов по обеспечению стабильности и правопорядка в стране в преддверии президентских выборов. Кроме того, генпрокурор отчитался о результатах проверки деятельности Свислочского райисполкома (Гродненская область). Заслушав эту информацию, Лукашенко поручил Шейману совместно с председателем Гродненского облисполкома Владимиром Савченко внести предложения по совершенствованию работы данного исполкома.

**Наталья КУЛАГИНА**

## ЧЕК "ИМУЩЕСТВО" ПОДОРОЖАЕТ

**В связи с переоценкой основных фондов, Министерство по управлению государственным имуществом и приватизации Беларуси планирует увеличить минимальную стоимость именных приватизационных чеков (ИПЧ) "Имущество" почти до 3 тысяч рублей.**

По информации Мингосимущества, соответствующие предложения уже направлены в Национальное собрание.

ИПЧ "Имущество" подтверждает законное право граждан на владение долей государственной собственности. Приватизационные чеки начислены и выданы около 5 миллионам граждан Беларуси. Общее их количество составляет 427 миллионов. За 7 лет чековой приватизации в стране почти половина чеков была обменена на акции приватизированных предприятий или специализированных инвестфондов; еще около 220 миллионов чеков остаются на руках у населения. В Мингосимуществе с сожалением констатируют низкую активность населения при обмене чеков на акции: в последнее время обменивается не более 100 тысяч чеков в месяц.

Напомним, что срок обращения ИПЧ "Имущество" завершается 1 июля 2002 года. При сохранении нынешних темпов обмена порядка 200 миллионов чеков могут остаться неиспользованными.

**Ольга ПОЛОНСКАЯ**

## РОСТ ЦЕН В ИЮНЕ

**По данным Министерства статистики и анализа Беларуси, за первые три недели июня рост потребительских цен в стране составил 1,9 процента.**

За первую неделю — 1,2 процента, за вторую — 0,3, за третью — 0,4. Для сравнения: за первые три недели мая цены выросли на 1,8 процента. С начала года потребительские цены в Беларуси увеличились на 22,2 процента (за этот же период 2000 года — на 53,1 процента, в т.ч. за первые три недели июня — на 5,5 процента).

**БелаПАН**

## ЗАДОЛЖЕННОСТЬ ЗА ЭНЕРГОРЕСУРСЫ

**По данным Министерства статистики и анализа, на 1 мая нынешнего года общая задолженность белорусских предприятий за энергоресурсы составила 2.122,2 млрд. рублей или 1,59 млрд. долларов США в пересчете по официальному курсу на тот день.**

На 1 января долг равнялся 1.772,3 млрд. рублей. Задолженность за природный газ составила 1.079,5 млрд. рублей (811 млн. долларов США), электроэнергию — 949 млрд. (713 млн.), нефть — 16,9 млрд. (12,7 млн.).

1.781,1 млрд. рублей (1,34 млрд. долларов) задолженности приходится на внутриреспубликанские расчеты, 341,1 млрд. рублей (256 млн. долларов) составляет внешняя задолженность, в том числе 201,5 млрд. (151 млн.) — за газ, 105,4 млрд. (79 млн.) — электроэнергию, 10,6 млрд. (8 млн.).

Задолженность за энергоресурсы в промышленности достигла 1.085,3 млрд. рублей (815 млн. долларов), в жилищно-коммунальном хозяйстве — 470,9 млрд. (354 млн.), в сельском хозяйстве — 293,7 млрд. (221 млн.), на транспорте (включая трубопроводный) — 233,3 млрд. (175 млн.), в торговле и общественном питании — 10,3 млрд. (7,7 млн.), в строительстве — 3,9 млрд. (2,9 млн.).

В то же время долги торговли и общепита снизились на 16,3 процента, а предприятий материально-технического снабжения и сбыта — в 4,1 раза (с 24,8 до 6 млрд. рублей).

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## ДЕКРЕТ ЛУКАШЕНКО ПРОТИВОРЕЧИТ КОНСТИТУЦИИ БЕЛАРУСИ

**29 июня Белорусский хельсинкский комитет (БХК) заявил, что Декрет президента Лукашенко "Об обязательном декларировании доходов кандидата в президенты...", предписывающий кандидатам в президенты и их близким родственникам предоставлять декларации о своих доходах и имуществе в Центральную избирательную комиссию, противоречит конституции и действующему законодательству.**

Белорусская конституция, считают эксперты БХК, не разрешает президенту издавать декреты, предусматривающие изменение порядка выборов президента. Кроме того, данный декрет издал в период уже начавшейся президентской кампании потенциальный претендент в кандидаты в президенты, а потому этот шаг Александра Лукашенко "нельзя оценить иначе, как прямое злоупотребление своими полномочиями и превышение власти с целью получения дополнительных преимуществ в ходе выборов". При этом Декрет не предусматривает обязанности президента, идущего на повторное избрание, обнародовать информацию о созданных и контролируемых им внебюджетных фондах управления делами президента, что, по мнению БХК, является обязательным.

**Информагентство ПРИМА**

## УТВЕРЖДЕНЫ ПРАВИЛА СОДЕРЖАНИЯ ДОМАШНИХ ЖИВОТНЫХ

**Постановлением Совета Министров Беларуси утверждены правила содержания домашних животных, а также отлова безнадзорных животных.**

В квартире многоквартирного жилого дома, согласно документу, разрешается содержать не более двух животных, в коммунальной — не более одного на семью при согласии всех несовершеннолетних граждан, проживающих в квартире.

Собаки и кошки подлежат регистрации в течение трех дней со дня приобретения. При регистрации животных их владельцам выдается регистрационное удостоверение и жетон, который «должен быть постоянно прикреплен к ошейнику животного». Владельцы обязаны в трехдневный срок ставить в известность организации, осуществляющие регистрацию животных, а также ветеринарное учреждение по месту проживания «о приобретении, продаже, гибели, пропаже, перемене места жительства».

Владельцам собак (за исключением собак-поводырей) и кошек запрещается приводить животных в магазины, на предприятия общественного питания и бытового обслуживания населения, в школы и детские дошкольные учреждения, в общественные здания, парки, скверы, на стадионы, рынки, выгуливать собак на придомовых территориях. Собак потенциально опасных пород запрещается выгуливать несовершеннолетним.

Безнадзорные собаки и кошки (в том числе с ошейниками, жетонами и в намордниках) подлежат отлову «в целях предотвращения заболевания людей и животных бешенством и другими заразными болезнями, а также устранения случаев покусов людей и животных». Отловленные животные, имеющие регистрационные жетоны, содержатся в течений пяти суток в специально отведенных и оборудованных местах. Возврат животных владельцам производится при подтверждении ими своих прав и после оплаты полной стоимости затрат по содержанию.

Облисполкомам и Минскому горисполкому рекомендовано «включать в сбор с владельцев собак компенсацию затрат по их ветеринарному обслуживанию, строительству и содержанию площадок для выгула, потреблению коммунальных услуг (вода, газ)».

**Дмитрий ВЛАСОВ, Ольга ШИНКЕВИЧ**

Газета Слонімская
5 — 11 ліпеня 2001 г., № 27 (213)

# Дорогая и любимая Татьяна Алексеевна МИСКЕВИЧ!

## Поздравляю тебя с рождением дочери!

Кто самый богатый в мире? Новорожденная, потому что у неё всё впереди: успех, счастье. Пожелаем же, чтобы этого богатства было побольше, чтобы жизнь была долгой и счастливой, и чтобы она выросла достойным человеком!





Что задумано — пусть исполнится,
Всё хорошее — пусть запомнится.
Пусть глаза твои счастьем светятся,
Люди добрые в жизни встретятся.
И здоровье пусть будет до старости,
Я желаю тебе только радости!...

Михаил

# І доўжыцца ноч...

**Новыя вершы Міколы КАНАНОВІЧА**

***

*Хтосьці баіцца адзіноты,*
*хтосьці — бяды.*
*Мы ж, як тыя краты,*
*цёмныя,*
*баімся сваёй цемнаты.*
*Бо стагоддзямі — ноч.*
*І тлустыя начальнікі-павукі,*
*са свінымі лычамі,*
*ўюць нам вяроўкі*
*і плятуць на магілы вянкі.*
*Яны выкшталцона*
*умеюць піць кроў і тлусцець*
*на галечы "братоў".*
*Гэта — іх сэнс і мэта быцця.*
*І катэгоры вечнасці*
*існуюць для нікчэмнасці.*
*Бо мы, як тыя краты,*
*цёмныя,*
*баімся сваёй цемнаты...*
*І доўжыцца ноч.*

***

*Юная, як красавіцкі дождж,*
*Прыгожая цнатлівай*
*палкасцю,*
*Цябе я сустракаў з такою*
*радасцю,*
*Пасля якой — і не жывуць*
*ўжо больш.*
*І свет патух. І неба —*
*навальніцаю,*
*Дзе бліскавіцы — позіркі твае.*
*Ўсе думкі і пачуцці ўсе мае*
*Успыхнулі апошняю зарніцаю.*
*І наступіла ноч. Шчарніла*
*сэрца сажаю.*
*Ты адышла у край нязбыўных*
*мар.*
*Мне сонца аднаму — сляпы*
*пякучы шар,*
*І мала ўсіх жанчын з іх*
*палкасцю лядзяшчаю.*

***

*Я ішоў пад дажджом*
*у старым палітоне*
*у чужую кватэру,*
*як вечны вакзал.*
*Я жыву там адзін*
*у бярлогу-прытоне,*
*Што часовым прытулкам*
*надоўга мне стаў.*
*Дождж у твар. Ліхтары*
*ў гэтым горадзе скралі.*
*І апоўначы цёмна,*
*хоць вока калі.*
*Бо краіну на ніц*
*прадалі, абабралі,*
*А народ не заўважыў —*
*зжабрачаў калі?*
*У старыя мае —*
*па фірме — басаножкі*
*Дождж дабраўся вадой*
*і захлюпаў наўзрыд.*
*Я ішоў з вечарыны*
*і думаў пра ножкі*
*Прад якімі упалі б*
*Парыж і Мадрыд.*
*Але ў нашых тутэйшых*
*палескіх Афінах*
*У адзіным начным*
*задрыпаным шынку*
*Тыя ножкі купіў*
*за кактэйль з апельсінам*
*Той, каму б не падаў я*
*ніколі руку.*
*А яшчэ, думаў я, галаву б*
*да тых ножак...*
*Ды бракуе разумнай*
*у нас галавы.*
*І падраўся ушчэнт*
*левы мой басаножак,*
*І набраўся, як гразі,*
*я сёння сумы.*

# ЯНКА КАРПОВІЧ



**1 ліпеня 2001 года слонімскаму паэту Янку Карповічу споўнілася 65 гадоў. Сёння паэт-юбіляр расказвае пра сябе.**

Нарадзіўся я на Ляхаўшчыне ў вёсцы Зарытава ў 1936 годзе. Бацька мой мала чытаў. Ён скончыў толькі тры класы царкоўна-прыходскай школы. Але помню, як ён падарыў мне зборнік твораў А.С.Пушкіна. Гэты падарунак я захаваў па сённяшні дзень. Маці першай навучыла мяне пісьменству. Сама кніжка "Буквар" была вельмі цікавая і змястоўная. Мой дзядзька Мікалай Даўгапол тады вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Ён быў вельмі добрым мастаком. Дагэтуль часу захаваліся яго карціны. А яшчэ дзядзька пісаў вершы, іграў на музычных інструментах. А як ён прыгожа размаўляў па-беларуску! Моладзь у вёсцы вучыў спяваць беларускія песні. З дзяцінства запомніўся мне і дзед Андрэй. Ён умеў у вершах распавядаць пра Жар-птушку 7 дзён запар... У той час ніхто не гуляў у карты і не мок, як цяпер, у гарэлцы.

У 1949 годзе я закончыў Жарабковіцкую сямігодку і паступіў вучыцца ў Падлескую сярэднюю школу. У 1954 годзе скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, а ў 1960 – Гродзенскі педагагічны імя Я.Купалы. Служыў у марфлоце на Балтыцы. Доўгі час працаваў дырэктарам школы, намеснікам дырэктара па вучэбнай частцы Слонімскага медвучылішча. Зараз настаўнічаю ў 10 сярэдняй школе.

Люблю сваю Бацькаўшчыну, свой куточак у роднай вёсцы. І калі я прыязджаю дадому да сваёй маtулі (дзякуй Богу, яна яшчэ жывая), то іду да свайго куточка, каб сказаць яму добры дзень, каб успомніць... І ў думках я бачу яго ранейшым, хоць на тым месцы ўжо даўно існуе рукатворнае возера калгаса "Беларусь".

## Беларусь мая

*Белізна рамонкаў,*
*Россып васільковы,*
*Жаўруковы гоман,*
*Песні салаўя.*
*Родная старонка —*
*Мой ты шлях жыццёвы,*
*Сэрца майго гонар —*
*Беларусь мая.*

## Ляцяць гусі

*У небе зорныя,*
*Над намі ўзорныя*
*Гусей кліны.*
*У нябеснай высі*
*Над Беларуссю*
*Ляцяць яны.*
*Душэўна шчырыя,*
*Сардэчна мілыя*
*Іх галасы.*
*Аб краі родным,*
*Дзе іх свабодныя*
*Палі, лясы.*
*Курлычуць гусі*
*Аб Беларусі,*
*Яе нудзе,*
*Гаротнай долі,*
*Жыццю без волі,*
*Яе бядзе.*

***

*Поле жытнёвае,*
*Сінь васільковая —*
*Існасць крывіцкай зямлі.*
*Клёкат бусліны,*
*Спеў салаўіны*
*У душу з дзяцінства ляглі.*
*У стыні тужлівай*
*Крык жураўліны —*
*Плачуць глухія званы.*
*Безлічысць Хатыняў,*
*Край у руінах —*
*Помнікі страшнай вайны.*
*Краю мой родны,*
*Будзь жа свабодны,*
*Збаўся хлусні і маны.*
*У працы руплівай,*
*У радасці шчырай*
*Хай падрастаюць сыны.*

# СЛОВА

**Фантастычна-містычнае апавяданне**

**1**

Па вузкай, утаптанай сцяжынцы Іван падняўся на пагорак і, зняўшы капялюш, далонню змахнуў з ілба кропелькі поту.

Вітаючы вясну, у небе спявалі жаваранкі, а тут, над пагоркам, кружыліся чорныя мошкі. Вечарам яны балюча кусалі і чалавека, і жывёлу. Пасля іхняга ўкусу на целе выскоквалі вялікія чырвоныя пухіры, якія доўга не праходзілі. Мошкі з'явіліся параўнальна нядаўна, гадоў тры таму назад, пасля таго, як на падворку сталі здабываць жвір. Жвірам высыпалі дарогу, вазілі яго і на жывёлагадоўчыя фермы, і на падворкі. Разам са жвірам у кузавы аўтамабіляў траплялі і чалавечыя косці. Старыя людзі казалі, што некалі на пагорку былі могілкі.

Параскіданыя косці ляжалі па ўсім пагорку: зімою іх засыпаў снег, а вясною і летам грэла і парыла цёплае сонца. Вяскоўцы прывыклі да гэтага.

Што ж, чалавек да ўсяго прывыкае.

Непадалёку, па пояс стоячы ў яме, на воз накідваў жвір Іванаў сусед Сымон — маленькі сухенькі дзядок з пракуранымі вусамі. Ён, Іван, хоць і займаў пасаду дырэктара мясцовай дзевяцігодкі, але пабойваўся Сымона. Ягоны сын працаваў у міністэрстве адукацыі, быў немалым начальнікам.

З сілай загнаўшы ў жвір рыдлёўку, Сымон падняў з ямы чэрап, пакруціў яго ў руках і кінуў на сцяжынку, пад ногі Івану.

— Дзядзька Сымон, — скрывіўся Іван, — людзі па сцяжынцы ходзяць! А вы чэрап сюды.

Сымон вылез з ямы, дастаў з кішэні танную цыгарэту, прыкурыў і едкім дымам пыхнуў у твар Івану.

— Мітрафанавіч, на днях да нас Указ са сталіцы прыедзе.

У Івана твар пабялеў, а вушы пачырванелі. Яны ў яго заўсёды чырванелі, калі вельмі хваляваўся.

— Вам сын патэлефанаваў?

— Сын. Казаў, што скарга на вас паступіла. Нібыта вы Слова ў сябе хаваеце.

У Івана пацямнела ў вачах. Ён пайшоў, спатыкаючыся. Успомнілася, як восенню Указ прыязджаў у школу.

**2**

У той дзень вучняў тэрмінова адпусцілі на каранцін, а настаўнікі самі паўцякалі, разахвягаліся. Нават завуча не ўдалося ўтрымаць.

Даўгавязы рыжы Указ у чорным касцюме і доўгім, да самых пят, чорным плашчы хадзіў па калідоры і ўважліва глядзеў на сцены, завешаныя рознымі аб'явамі, інструкцыямі, статутамі. Ён шукаў Слова. Яно раней вісела ў канцы калідора ў даўняй рамцы арэхавага колеру пад шклом. Слова любілі. Ды прыйшлі новыя людзі і загадалі зняць яго са сцяны. Гэта было тры гады таму назад.

Заняткі ў школе ўжо скончыліся. Вучні разышліся. Зняўшы Слова, Іван з палёгкай уздыхнуў. Неспадзявана дзверы адчыніліся, і ў калідор уляцеў сын Паўлік, які вучыўся ў чацвёртым класе.

— Тата! Ты не хочаш, каб Слова бачылі?

Рамка са Словам калыхнулася ў руках Івана...

— Сынок! — мякка прагаварыў Іван. — Я не супраць таго, каб Слова ў школе вісела. Але начальства на мяне націскае. Я не зніму — хтосьці іншы знойдзецца, зніме.



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Паўлік крануў на галаве непадатлівы віхор і натапырыўся, як вожык.

— На сметнік выкінеш! Эх, ты!

Іван сапраўды хацеў выкінуць Слова на сметнік, але чамусьці зашчымела на душы пасля сынавага "эх, ты!"

— Сынок, я яго дома ў каморы схаваю, — паабяцаў ён.

— Хавай! — з пагардай сказаў Паўлік і пабег.

Іван не падмануў сына. Прынёс вечарам Слова дамоў і схаваў у цёмнай каморы, старымі дзяружкамі накрыўшы.

Шчасце, што Указ пра гэта не ведае.

Указ рэзка павярнуўся да Івана.

— Значыць, на калідоры няма Слова?

Іван выцягнуўся перад Указам.

— Няма!

— А ў кабінетах?

— І ў кабінетах няма!

— Праверым.

У кабінеце рускай мовы і літаратуры Указ падзівіўся на барадатага Льва Талстога, у кабінеце заалогіі ўсміхнуўся шкілету чалавека, а ў кабінеце гісторыі доўга разглядаў гіпсавую фігурку Аляксандра Суворава.

Іван баяўся, што Указ запытаецца, дзе падзеліся настаўнікі. На шчасце, не ўспомніў пра настаўнікаў. Пахадзіўшы па кабінетах, пахваліў Івана:

— Быць табе дырэктарам і далей.

"Нейкі гад праведаў, што я Слова схаваў. Данёс, цяпер радуецца",— нявесела думаў Іван, ідучы дамоў.

**3**

— Марына! — з сяней паклікаў ён жонку, пазіраючы на дзверы, што вялі ў каморку.

Праз хвіліну з хаты ў сені прыйшла Марына. Яна вяла матэматыку ў школе.

— Паўлік дома? — раптам усхліпнуўшы, звярнуўся да яе Іван.

Марына з недаўменнем пагледзела на мужа.

— На двары гойсае. А ты чаго расплакаўся?

— Хтосьці напісаў, што я Слова дома хаваю. Указ прыедзе правяраць. Дзядзька Сымон мяне папярэдзіў.

Жонка тыцнула ў лоб мужу тоўстым указальным пальцам.

— Прасіла цябе: не нясі! Не паслухаўся, прынёс! Дурань!

— Дурань! Я дурань! — пагадзіўся Іван.

Марына зыркнула на яго, як пякельны Цмок, і кінулася ў камору. Неўзабаве вярнулася, трымаючы ў руках Слова ў даўняй рамцы арэхавага колеру.

— Дурань! Дурань! — шаптаў Іван. Слёзы буйнымі кроплямі цяклі па яго шчаках.

Марына працягнула яму Слова.

— Бяры!

Іван рукавом выцер слёзы і ўзяў Слова.

— Я яго ў яму кіну і пяском засыплю.

— Пахавай, — кіўнула галавою жонка.

Захопленыя гаворкай, яны не заўважылі, як у сені ўбег Паўлік.

— Аддайце мне Слова, — прагаварыў ён, сціўшыся ў камячок, як верабейка.

— Сынок, на нас ананімку напісалі. У ёй сказана, што Слова хаваем. Указ прыедзе правяраць, — азірнуўшыся, прашаптаў Іван.

— Аддай! — схапіўшы абедзвюма рукамі, Паўлік вырваў у бацькі Слова і стаў каля сцяны.

— Іван, ён нас загубіць! Урэж яму папружкай! — крыкнула Марына.

У Івана пабялеў твар і пачырванелі вушы. Дрыжачымі рукамі ён зняў з нагавіцаў папругу і аперазаў Паўліка па галаве.

Хлапчук тоненька заенчыў, асунуўся на падлогу і выпусціў з рук Слова.

Іван схапіў Яго і, як ашпараны кіпенем, выбег на двор.

**4**

У зрэбным мяху Іван прынёс Слова на пагорак і кінуў у яму, якую не так даўно выкапаў дзед Сямён.

Побач з ямай ляжала свежая горбачка жвіру, а каля яе — чалавечы чэрап з зубамі.

Паморшчыўшыся, Іван нагою штурхнуў чэрап. Ён упаў у яму і лёг каля Слова.

Жменямі Іван сыпаў у яму вільготны, свежы жвір і час ад часу прыгаворваў, падахвочваючы сябе:

— Разам пахаваю вас! Разам!

**(Працяг будзе)**

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

# БЕЗВЫЙГРЫШНАЯ СЕРЫЯ. МАТЧ ПЯТЫ

## Орша — Камунальнік, 4 — 1

**Орша. 30 чэрвеня.**
**Галы: 27, 46, Бычынскі; 76, Васюк; 78, Школа (Орша). 86, Аначэнка (Камунальнік).**
**Выдаленні: 47, Ясінскі.**

На гульню ў Оршу слонімскі "Камунальнік" прыехаў за дзень, каб мець магчымасць як след падрыхтавацца да матчу. І першы тайм нашы футбалісты распачалі з атак на вароты гаспадароў поля. Ды толькі вопытныя аршанцы мелі свае планы на гэтую гульню і спакойна адышлі ў абарону, вырашыўшы згуляць ад абароны.

І такая тактыка аказалася вельмі эфектыўнай, бо ўжо на 27-й хвіліне Бычынскі ў контратацы абыграў двух абаронцаў "Камунальніка" Чэпкага і Баля, выйшаў сам на сам з Сяргеем Бекішам і прымусіў таго даставаць мяч з сеткі сваіх варот. 1:0, і слонімцы кінуліся адыгрывацца, але прайсці шчыльную абарону гаспадароў да перапынку так і не здолелі. Праўда, не атрымалася нічога нападрадзе і ў ігракоў "Оршы". З такім мінімальным лікам і пайшлі каманды на перапынак.

Другі тайм расставіў усё па сваіх месцах. Не прайшло і хвіліны, як настойлівы Бычынскі зноў адзін выйшаў на Бекіша і падвоіў лік — 2:0.

Яшчэ праз хвіліну-другую жоўтую картку ў матчы атрымлівае Мірaслаў Ясінскі, і, канечне ж, аўтаматам — чырвоную і выдаляецца з поля. Гульня ў меньшасці стала для слонімцаў сапраўдным выпрабаваннем, тым больш, што і ў поўным складзе на трыццаціградуснай спёцы гуляць было складана.

За 15 хвілін да заканчэння матчу у гасцей яшчэ заставалася надзея адыграцца, але знішчылі яе дакладнымі ўдарамі Васюк і Школа. Усё, што здолелі зрабіць ігракі "Камунальніка" — гэта забіць гол прэстыжу. На 86-й хвіліне Максім Горбач перакінуў мяч праз варатара гаспадароў, і ўжо з лініі пустых варот гол забіў Дзмітрый Аначэнка. 4:1. Чарговае, ужо пятае запар паражэнне слонімскай каманды.



*Чакаем перамогі*

Пракаменціраваць такую безвыніковую гульню згадзіўся галоўны трэнер "Камунальніка" Леанід Савіцкі.

— Прэтэнзій да большасці хлопцаў у мяне няма, — адзначыў Леанід Альбінавіч. — Каманда наша маладая, і ёй проста не хапае вопыту. Трэба працаваць, і ў футбалістаў ёсць гэтае жаданне, энтузіязм. А раз так, то будзе і вынік.

Спадзяемся, што менавіта так і будзе. У наступным матчы, які адбудзецца 8-га ліпеня ў Слоніме, "Камунальнік" будзе прымаць "Свіслач" з Асіповічаў.



*Ці дапамогуць клубу Аначэнка (у цэнтры) і Вярбіцкі (справа)?*

### Вынікі матчаў 12-га тура:

Свіслач — Зорка-ВА-БДУ, 1-3
Ліда — Дынама-Юні, 5-0
Хімік — Керамік, 1-0
Тарпеда-Кадзіна — Тарпеда, 0-1
Граніт — Рагачоў-ДЮСШ-1, 2-2
Дарыда — Нёман, 3-0

### Матч 7-га тура

Керамік — Дынама-Юні, 2-0

У нясконченым матчы 10-га тура Зорка-ВА-БДУ — Дынама-Юні гасцям залічана тэхнічнае паражэнне 3-0.

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 12-ГА ТУРА

| | гульні | В | Н | П | ачкі | мячы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дарыда | 11 | 8 | 3 | 0 | 27 | 22-6 |
| 2. Хімік | 12 | 8 | 2 | 2 | 26 | 24-9 |
| 3. Тарпеда | 11 | 7 | 2 | 2 | 23 | 16-6 |
| 4. Тарпеда-Кадзіна | 12 | 7 | 1 | 4 | 22 | 13-11 |
| 5. Зорка-ВА-БДУ | 11 | 6 | 3 | 2 | 21 | 24-8 |
| 6. Ліда | 12 | 5 | 4 | 3 | 19 | 16-10 |
| 7. Граніт | 11 | 5 | 2 | 4 | 17 | 20-10 |
| 8. Керамік | 11 | 5 | 2 | 4 | 17 | 13-12 |
| 9. Орша | 11 | 5 | 1 | 5 | 16 | 16-16 |
| 10. ЗЛіН | 11 | 3 | 2 | 6 | 11 | 12-16 |
| 11. Камунальнік | 11 | 3 | 1 | 7 | 10 | 10-15 |
| 12. Дынама-Юні | 10 | 2 | 2 | 6 | 8 | 8-17 |
| 13. Свіслач | 10 | 2 | 1 | 7 | 7 | 7-23 |
| 14. Нёман | 11 | 1 | 2 | 8 | 5 | 8-24 |
| 15. Рагачоў-ДЮСШ-1 | 11 | 0 | 4 | 7 | 4 | 9-35 |

## ВЫХОДИМ НА МЕЖДУНАРОДНЫЙ УРОВЕНЬ

**Недавно в немецком городе Бохум прошла международная регата. В этих соревнованиях принимали участие и двое воспитанников слонимской СДЮШОР №2 Андрей Дубина и Иван Григорчик (сейчас учащиеся РУОР г. Мосты).**

Слонимские каноисты выступили в трех дистанциях и показали хорошие результаты. В каноэ-двойке на тысячаметровке они были седьмыми, а в каноэ-четверке на 1000 м — третьими, и на 500 м — вторыми.

Еще один слонимский гребец Алексей Кульгавый участвовал в Кубке мира по гребле на байдарке и каноэ, который проходил во Франции. В каноэ-одиночке Алексей пришел к финишу четвертым на дистанции 200м.

ЧЭМПІЯНАТ ВОБЛАСЦІ

# ГАРАЧАЯ ПЕРАМОГА Ў РОДНЫХ СЦЕНАХ

## Камунальнік-2 - ФК "Ліда", 4 — 1

**Слонім. 1 ліпеня. Стадыён "Дынама".**
**Суддзя: Казімір Суліма (Гродна).**
**Камунальнік-2: С.Берг (А.Дэкола), А.Сямёнаў, С.Скляр (С. Осіпаў), А.Боцік, А.Місюк, М.Ясінскі (Д.Косцін), А.Кузміч (А.Дэйка), Я.Савань, С.Грыб (Д.Зубко), М.Горбач, І.Грынюк.**
**Галы: А.Місюк; І.Грынюк; Я.Савань; А.Дэйка (Камунальнік-2). Ю.Хадыка (Ліда).**

Трэнеры слонімскай каманды разлічвалі, што гульня з "Лідай" пройдзе на роўных, і пачатак першага тайма, па вялікаму рахунку, пацвердзіў гэта. Але канчатковы лік матчу паказаў даволі значную перавагу гаспадароў поля.

Пачатак перамозе на 8-й хвіліне паклаў ударам з лініі штрафной гасцей Андрэй Місюк. Былі ў нашых хлопцаў і яшчэ некалькі выгодных момантаў, каб замацаваць перавагу, але на 15-й хвіліне лідчане здолелі аднавіць раўнавагу. Зрабіў гэта Юрый Хадыка.

Спякотнае надвор'е не дазваляла паказаць нашым ігракам усё, на што яны здольныя. Ды толькі характару слонімцам — не пазычаць. Пры розыгрышы чарговага вуглавога на вароты гасцей, Яўген Савань дакладна "навесіў" мяч на Івана Грынюка, і той галавой забіў другі гол у вароты Ліды.

Яшчэ да перапынку вызначыўся і сам Яўген Савань. Зрабіў ён гэта таксама галавой, замыкаючы найгранную камбінацыю. Лік 3:1 пасля першага тайма амаль не пакінуў лідчанам шанцаў нават на нічыю. Другая палова гульні поўнасцю пацвердзіла гэта.



*У Слоніме — на перамогу (момант гульні з "Цукракамбінатам")*

Слонімцы праводзілі матч з добрым настроем і жаданнем перамагчы. Таму, магчыма, і атрымлівалася ў іх амаль усё.

Канцоўка гульні падаравала нешматлікім балельшчыкам яшчэ адзін забіты мяч у вароты "Ліды". Галявую камбінацыю распачаў добрымі дзеяннямі ў цэнтры Міраслаў Ясінскі. Пасля мяч падхапіў Максім Горбач і з флангу накіраваў яго ў варатарскую гасцей на Алега Дэйку. І той у шпагаце прапіхнуў мяч у вароты. Варатар "Ліды" тут ужо выступаў у ролі статыста.

4:1. Такі канчатковы вынік матчу цалкам задаволіў гаспадароў поля. А гасцям, мусіць, спёка ў Слоніме запомніцца надоўга.

# СВЯТА СПОРТУ Ў ГАРАДСКІМ ПАРКУ

**На Дзень незалежнасці шматлюдна было ў гарадскім парку, дзе ўсё спрыяла добраму адпачынку сланімчан. Адбылося тут і спартыўнае свята.**



*Выступленне гімнастак зборнай г.Слоніма*

У яго праграме прайшлі паказальныя баксёрскія баі паміж выхаванцамі трэнера Уладзіміра Пірожніка. У дзвюх парах сустракаліся Аляксандр Дрозд (СШ №5) і Самір Алікбераў (СШ №1), а таксама Яўген Троцкі (СШ №5) і Сяргей Іваноў (СШ №5). Усе яны першаразраднікі і здолелі прадэманстраваць сваё майстэрства гледачам. А іх, дарэчы, было больш за сотню.

Другімі на пляцоўку выйшлі гімнасткі зборнай Слоніма, прызёры абласных спаборніцтваў, і іх выступленне спадабалася абсалютна ўсім. Оля Федаровіч (СШ №2), Аня Сончык (СШ №5), Наташа Дрозд (СШ №5), Даша Старыгіна (СШ №10) і Марына Дэмбская (гімназія №1) выканалі кампазіцыю, падрыхтаваную пад кіраўніцтвам трэнера Алены Макарскай.

У той жа час на канале Агінскага праходзілі спаборніцтвы па веславанню на байдарках і каноэ. Удзел у іх прынялі маладыя веславальшчыкі са слонімскай СДЮШАР №2.

Афіцыйную частку свята закрылі слонімскія каратысты з клуба "Барс". Дзесяць спартсменаў на чале з кіраўніком і трэнерам клуба Васілём Максімавым, уладальнікам II кю і карычневага пояса, прыцягнулі ўвагу гараджан выкананнем базавых ката і разбіваннем дошак ударамі рук і ног.

Пасля гэтага ўжо самі гледачы мелі магчымасць памерацца сіламі ў падняцці гіры і выявіць мацнейшага ў армрэслінгу (барацьбе на руках).

Усе пераможцы і ўдзельнікі спартыўных выступленняў і конкурсаў атрымалі грашовыя прэміі, што было не лішне, бо вакол харчовых прадпрыемстваў горада разгарнулі свае гандлёвыя палаткі.

Арганізавана было і праводзілася гэтае святочнае мерапрыемства спарткамітэтам Слонімскага гарвыканкама.

**Валерый КАВАЛЕНКА,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**

# анекдоты

☺ 😐 ☹

Едет автобус, а за ним бежит человек. Еле-еле догнал, запрыгивает на подножку, но тут двери закрываются, и ему обрезает руки. Но человек встает и изо всех сил бежит за автобусом, на этот раз ему отрезает ноги. Он падает. Тут выбегают из автобуса люди и заносят человека в автобус.

Человек открывает глаза и говорит:

- Предъявите билеты!

☺ 😐 ☹

- Дорогой, как тесен мир! Я вчера узнала, что твоя третья жена и мой второй муж проводят медовый месяц на вилле первого мужа твоей второй жены.

☺ 😐 ☹

Маленький мальчик выходит из кухни очень расстроенный.

- Что случилось, сынок!? - спрашивает отец.

Хлюпая носом, сын ответил:

- У меня только что был скандал с твоей женой!!!

☺ 😐 ☹

Сегодня на центральной площади столкнулись толпа мазохистов и отряд ОМОНа. Еще ни разу ни те, ни другие не получали такого огромного удовольствия!

☺ 😐 ☹

Адвокат:

- Господин судья! Ну откуда эта несчастная женщина могла знать, что ее муж столь чувствителен к мышьяку?

☺ 😐 ☹

Объявление: "Меняю одну национальность на две судимости. Согласен на большие сроки."

☺ 😐 ☹

- Привет! Ты уже устроился?

- Нет, я еще работаю...

☺ 😐 ☹

Мужик сидит в общественном туалете, вдруг из соседней кабинки голос:

- Извините, у вас нет туалетной бумаги?

- Нет, к сожалению, нет.

Через какое-то время опять:

- Простите, а газетки случайно не найдется?

- Нет, увы, я налегке.

Через несколько минут под стенку между кабинками просовывается 50-рублевка:

-По десять рублей не разменяете?

☺ 😐 ☹

- Дэвушка, а дэвушка - ви мине нравитэс!

- Ну так, поухаживайте за мной!

- Понэл, ухажу!

☺ 😐 ☹

Мужчина подходит к продавцу:

- Здравствуйте, между прочим!

- Да пошел ты... на всякий случай!

# ОТВЕТЫ НА сканворд (№212)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Х | ■ | ■ | Я | Б | Е | Д | А | ■ | Р | ■ | Т |
| О | ■ | ■ | ■ | Р | ■ | У | ■ | Р | О | З | А |
| Р | И | К | Ш | А | ■ | Л | ■ | ■ | М | ■ | Б |
| О | ■ | И | ■ | Г | Р | О | М | ■ | А | З | У |
| В | Е | С | Н | А | ■ | ■ | У | Р | Н | А | ■ |
| О | ■ | А | ■ | ■ | П | О | Л | Е | ■ | К | ■ |
| Д | А | ■ | К | Л | А | Д | ■ | П | Л | А | Ц |
| ■ | ■ | П | ■ | О | ■ | А | ■ | К | О | Т | ■ |
| ■ | ■ | Л | И | П | А | ■ | Р | А | К | ■ | А |
| Ш | П | А | Г | А | Т | ■ | А | ■ | А | К | Р |
| А | ■ | Н | О | Т | А | ■ | Л | О | Т | О | К |
| Р | ■ | ■ | Л | А | С | С | О | ■ | О | С | А |
| ■ | Л | ■ | К | ■ | ■ | Т | ■ | К | Р | А | Н |
| Л | И | Р | А | ■ | С | У | М | О | ■ | ■ | ■ |
| ■ | Д | О | ■ | ■ | У | Л | И | К | А | ■ | Е |
| Ч | А | Й | Н | И | К | ■ | Р | ■ | Д | А | Р |

# "ПЛЯЖ — РАЙСКІ АДПАЧЫНАК"

фотоконкурс ( фотоконкурс ( фотоконкурс

## Паважаныя сябры!

"Газета Слонімская" сумесна з мінскай газетай "Туризм и отдых" праводзіць фотаконкурс сярод нашых чытачоў "Пляж — райскі адпачынак".

На конкурс дасылаюцца каляровыя і чорна-белыя фотаздымкі розных памераў. На іх павінен быць адлюстраваны летні адпачынак – пляж, вада, сонца, усмешкі вашых сяброў і знаёмых. Самыя арыгінальныя фотаздымкі будуць апублікаваныя на старонках "Газеты Слонімскай". Аўтары самых лепшых, цікавых і смелых здымкаў атрымаюць ад дзвюх газет каштоўныя прызы: фотаапараты, гадзіннікі, фотаальбомы і інш.

Абавязкова ўказвайце сваё прозвішча, імя, імя па бацьку, хатні адрас і тэлефон. Вынікі конкурсу будуць падведзены ў верасні.

Фотаздымкі дасылайце на наш адрас: **231800 г.Слонім, вул. Камсамольская, 8, з паметкаю "На конкурс"**.

*Чакаем вашых здымкаў, паважаныя сябры!*

# Минский кроссворд

СОСТАВИЛ ВЛАДИМИР ВАШУТА

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| П | О | Л | Ю | С | ■ | | ■ | | ■ | Ø (зачеркнуто) | Ю (зачеркнуто) | | | |
| | ■ | | ■ | | | | | | | Е | И | О | О | У |
| | | | | | ■ | | ■ | | ■ | Е | О | | | |
| | ■ | | ■ | | | | | | | А | Е | Н | О | |
| | | | | | ■ | | ■ | | ■ | А | А | | | |
| ■ | | ■ | | ■ | | | | | | А | А | | | |
| | | | | | | ■ | | ■ | | А | А | И | О | |
| ■ | | ■ | | ■ | | | | | | А | Е | | | |
| | | | | | | ■ | | ■ | | А | А | Е | И | |
| ■ | | ■ | | ■ | | | | | | А | О | Я | | |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Л (зачеркнуто) | Г | К | К | Д | М | К | Б | К | К |
| Р | Н | К | Н | К | Н | Р | Р | М | Л |
| Т | | Л (зачеркнуто) | С | М | Н | С | С | М | Н |
| Т | | Т | Т | С (зачеркнуто) | Р | | С | С | Р |
| Ц | | Т | | Т | Ш | | Т | Т | Ш |

В сетку кроссворда следует вписать гласные и согласные буквы из предлагаемых рядов. Слова в кроссворде повторяться не должны. Буквы даны в алфавитном порядке, который может не совпадать с порядком в сетке кроссворда.

# ГОРОСКОП ОТ WWW.IGNIO.COM НА НЕДЕЛЮ

ОВЕН

Хорошая пора для полноценного отдыха. Стоит начать отпуск именно сейчас. Путешествия принесут разнообразные впечатления, Вы узнаете много нового и интересного. Те же представители знака, чьи отпуска пока не начались, решают другие задачи. В среду возможна весьма щекотливая ситуация на работе, которая поставит Вас в затруднительное положение. Желательно не спорить и не конфликтовать с начальством. Пятница, наоборот, один из самых удачных дней недели, особенно фортуна будет благосклонна к продвижению по карьерной лестнице или к проявлению творческой инициативы в какой-нибудь области.

ТЕЛЕЦ

Эта неделя может приготовить интересные перспективы и многообещающие предложения для Вашей деловой активности. Во вторник желательно соотнести Ваши планы с реально существующей ситуацией и произвести их своевременную коррекцию. Подумайте о перемене способа заработка. В пятницу Вас может ждать удача в делах, вероятна денежная прибыль. На работе Ваши предложения отметит начальство. Оно даже может задуматься о повышении Вам заработной платы, что придется весьма кстати, ведь Ваш отпуск совсем близко.

БЛИЗНЕЦЫ

Этот период может оказаться полным случайностей, например, Вас могут внезапно отправить в отпуск. На этой неделе Вы сможете завести ценные знакомства, этому будет способствовать Ваш дар красноречия и умение убеждать окружающих. На работе придется рассчитывать только на свои силы и возможности. Надежность Ваших партнеров может быть весьма условна. Могут посыпаться всевозможные заманчивые предложения, Вам будет необходимо выбрать самые достойные из них. Старайтесь быть мягче с домашними, при необходимости помогайте им.

РАК

Вы постепенно начинаете завоевывать успех и популярность. Вам необходимо совершить маленький подвиг - разобраться со всеми накопившимися рутинными делами. В понедельник вероятны непредвиденные обстоятельства, которые могут разрушить почти все Ваши планы на этот день. А вот вторник будет удачен практически во всех отношениях, особенно, если Вы не будете резко и внезапно менять свои решения. В начале недели вероятны непредвиденные обстоятельства, которые могут разрушить почти все Ваши планы на этот день. В четверг Ваши родные могут начать придираться к Вам по любому поводу, что может окончательно вывести Вас из равновесия, но лучше просто не обращать на них внимания.

ЛЕВ

Накопившаяся усталость может, наконец, начать сказываться на Вашем восприятии окружающего мира. Потерпите немного, отпуск почти начался. Самое время заняться организационными делами. Возможны проблемы с телефонной связью и транспортом. Желательна индивидуальная творческая работа по свободному графику. В спокойной обстановке можно будет решить многие проблемы, которые накопились за долгое время. В пятницу сохраняйте душевное равновесие и относитесь доброжелательно к критике в свой адрес. Во вторник не принимайте близко к сердцу известия о грядущих переменах, слухи окажутся ложными. Подумайте, как лучше обустроить и изменить Вашу жизнь.

ДЕВА

Осторожнее с перегрузками, хотя Ваше рвение во имя работы весьма похвально. Ваши профессиональные дела протекают весьма успешно, особенно работа с документацией. Планируя новое, не забывайте о старых накопившихся делах. В понедельник включайтесь в работу, объективно оценивая свои силы, и Вы успешно справитесь с проблемами. В среду активность и интуиция могут помочь достигнуть высоких результатов.

ВЕСЫ

Настал благоприятный момент для построения долгосрочных планов. Однако желательно не спешить и не пытаться торопить события. На этой неделе Вы можете принимать все происходящие события близко к сердцу. Таким образом Вы только зря потревожите себе нервы, а если Вы не в силах изменить обстоятельства, то необходимо срочно менять отношение к ним. Поступайте именно так, и тогда тучи над Вашей головой рассеются бесследно. В понедельник желательно не убеждать подчиненных в своей правоте. В четверг лучше не начинать ничего нового. В пятницу опирайтесь на свое мнение, пусть мнение окружающих Вас не волнует.

СКОРПИОН

Если у Вас есть интересные идеи и замечательные мысли, то они должны оказаться востребованными и жизнеспособными. Неделя принесет знакомства с новыми интересными людьми. Работы накопилось очень много, и Вы, как всегда, незаменимы, поэтому с отпуском придется немного подождать. Будьте внимательны с деловыми бумагами, невнимательность может повлечь за собой серьезные ошибки. Держите все дела под контролем, тогда ситуация разрешится в Вашу пользу. В понедельник может возникнуть вопрос, отправиться в отпуск или еще поработать для исправления финансового положения, это предстоит решать Вам.

СТРЕЛЕЦ

Вы, конечно, сильны и могущественны, но помощь влиятельных людей для продвижения по карьерной лестнице Вам не помешает. Вас могут ждать дополнительные хлопоты, связанные с партнерами, но они будут положительными, партнеры учтут Вашу заинтересованность в общем деле. Сдвинутся с мертвой точки проекты, на которые Вы махнули рукой. Не забывайте о старых накопившихся делах и проблемах, их необходимо решить в ближайшее время, чтобы они не отодвинули вдаль Ваш долгожданный отпуск. Возможны конфликты с близкими людьми из-за их принципиальных позиций, но при желании их будет легко разрешить.

КОЗЕРОГ

Пора основательно подготовиться к отпуску, доделать старые дела, привести в порядок мысли, создав для них стройную систему. В понедельник может поступить информация, которая повлияет на Вашу карьеру. Во вторник Вы будете полны сил и энергии, работа закипит в Ваших руках. Среда может оказаться не из самых приятных дней недели, Ваши стройные и последовательные планы могут быть нарушены. В четверг все изменится к лучшему, этот день можно назвать днем исполнения Ваших желаний. Начальство ценит Вас за вашу работоспособность, так не теряйтесь и не тяните с заявлением на отпуск.

ВОДОЛЕЙ

Вам необходимо наметить планы на эту неделю, т.к. она будет достаточно напряженной и насыщенной событиями. Желательно не торопить события, иначе Вы не сможете объективно рассчитать свои силы. Уделите достаточно времени решению старых проблем. Вы можете рассчитывать на помощь друзей и близких людей. В среду Вам придется приложить максимум усилий, чтобы сохранить душевное равновесие. Начальство будет придираться по мелочам. Не планируйте на этот день ничего важного. После этого бурного дня, четверг и пятница будут спокойными днями, когда Вы практически все будете успевать сделать.

РЫБЫ

Ваши оригинальные идеи могут вызвать заинтересованность у окружающих. На работе вероятны проблемы, связанные с информацией. Постарайтесь рационально расходовать Ваши силы, избегайте перегрузок. Понедельник и вторник благоприятны для деловых встреч и подписания контрактов, обращайте внимание на транспорт, он может подвести. В среду и четверг желательно не начинать новых дел и не планировать ничего серьезного. Самое время задуматься о скором отпуске. В пятницу вероятны известия от друзей или родственников издалека. Возможно, что они приедут в выходные, и Вы рады будете их увидеть.

Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.

ЗАСНАВАЛЬНІК
Віктар ВАЛАДАШЧУК

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім,
вул. Камсамольская, 8.
Тэлефоны:
рэдакцыі ........................2-14-39
...........(017)210-87-17
аддзел рэкламы ...........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Рэдакцыя таксама не адказвае за змест рэкламы.

Падпісана да друку
4 ліпеня 2001г.
Час падпісання 7:00.
Надрукавана
ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г.Слонім, вул. Хлюпіна, 16.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
63646 (льготная)
НАКЛАД 10.600 экз.
ЗАКАЗ № 2163.

Аб'ём — тры друкаваныя аркушы

E-MAIL: gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by ПЭЙДЖЭР: 8-22-730000 аб. 95196